# Самапомач Гаспадарскае

№ 11 (64).
Год VI.
Вільня. 10 Ліпня 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ: Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.
АДМІНІСТРАЦЫЯ Вільня, Завальная № 1.

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.


## Пякучае пытаньне.

Бясспрэчна трэба прызнаць, што сягоньня найбольш пякучым пытаньнем нашай беларускай вёскі зьяўляецца перанасяленьне. Шмат людзей, мала зямлі, на месцы заработкаў няма, няма куду і выехаць — вот беды кожнага дня, кожнай гадзіны.

А жыць трэба. Як гэта жыцьцё ўкладаецца, — кожны ведае. Страшна аднак падумаць, што будзе, калі гэткі стан патрывае даўжэй. Што будзе, калі падзел гаспадарак нястрыманаю хваляю пойдзе далей так, як ішоў дагэтуль? Што будзе, калі малыя запасы нашай зямлі далей будуць выкупліваюцца чужымі прыезднымі людзьмі? Што астанецца для мясцовага селяніна беларускага, каторы калісьці, за паншчыны, паліваючы гэту зямлю сваім потам, прывык глядзець на яе, як на сваю ўласнасьць?

Гэткія і падобныя думкі спавіваюць сягоньня душу кожнага чалавека, які чэсна, без упярэджаньня прызадумаецца над доляй беларускага селяніна. І трэба сказаць, што аб гэтай справе сягоньня думаюць і гавораць шмат; можа нават за шмат. Таму з гэтага гаспадарскага пытаньня сягоньня ўжо сталася пытаньне палітычнае. Шмат хто з тых, што сяньня „памагаюць бедаваць“, робяць гэта толькі таму, каб замаскаваць свае праўдзівыя мэты, найчасьцей каб абараніць ад падзелу маёнткі. Прыдумываюць на гэта розныя тэорыі, розныя прыклады; паказваюць то на нямецка-гітлераўскія „эрбгофы“ (спадкавыя гаспадаркі), то на „гезундэ мішунг“ („здаровая мешаніна“ гаспадарак дробных з большымі), а як гэта не памагае, дык страшаць меншай ураджайнасьцю... Усё толькі па тое, каб змусіць малазямельнага, а тымбольш беззямельнага чалавека адказацца ад думкі пашырыць сваю гаспадарку з надбытку зямельных запасаў у розных маёнтках.

Што на ўсё гэта можа і павінен думаць наш чалавек — беларускі селянін?

Галоўнае — павінен перастаць лішне ўздыхаць „да даўных добрых часаў“, калі шнюр быў шырэйшы і выхад у сьвет незагароджаны, а больш думаць аб будучыні. Хочучы з вузейшага шнюра пражыць, трэба больш улажыць у яго працы і капіталу. А на дальшую мэту — бароцца тым-жа аружжам, якога ўжываюць проціў нас самых: ня дацца, каб чужыя людзі выкуплівалі спад носу грунты, але наадварот, старацца забясьпечыць свае правы на прылеглыя суседнія грунты, на якіх дзяды-прадзеды нашы служылі паншчыну.

Пры ўсім гэтым трэба вылячыцца ад небясьпечнай хваробы, якую ўмаўляюць нам зусюль, што быццам нашы шнюры й так яшчэ шырокія. Што гэта няпраўда, ведаюць перад усім тыя з нас, каму здарылася пабываць хоць-бы ў найбліжэйшай да нас Латвіі, ці Літве. Апрача таго безстароньнія дасьледаваньні нашых гаспадарак нязбіта паказалі, што хоць агульны абшар зямлі ў нас і значны, то калі адкінуць аграмадную масу няўжыткаў (балаты, жвір, лятучыя пяскі), дык на долю грунтоў прыгодных да абрабляньня астанецца такая малая часьць, што гусьціня насельніцтва (на 1 кв. клм.) на нашых землях акажыцца ня меншай, як не ў аднэй густа населенай прамысловай краіне Зах. Эўропы.

Гэта трэба ведаць кожнаму беларускаму селяніну і гэтым у патрэбе бараніцца.

Урэшце справа самага падзелу гаспадарак з спадчыны. Яна ў нас так „уцёрлася“, што аграніччэньне права да вольнага падзелу, а тымбольш забарона ўважалася-б за пасяганьне на самае права ўласнасьці. Нават падыйманьне гутаркі аб гэтым можа быць „непапулярным“, г. зн. ў пэўным сэнсе небясьпечным. Справу вольнага падзелу гаспадарак цяпер як раз пачалі людзі дасьледжваць з усіх бакоў. Таму да часу апублікаваньня ўсіх дакумантаў у гэтай справе было-б за рана казаць аб ёй штосьці больш, чым тое, што калі-б аказалася бясспорная патрэба непадзельнасьці гаспадарак, дык упірацца проціў гэтага ня было-б ніякага сэнсу.

Але да гэтай справы йшчэ вернемся.

# Што, як і калі рабіць?

*(Землярöбская тэхніка).*

## Чаму неўрадзіла канюшына?

З шмат мясцоў чуем сёлета: не ўрадзіла канюшына, прапала канюшына... Чаму?

Ня можна адказаць на гэта адным словам на ўсякі асобны выпадак. Ня шмат аднак памылімся, калі скажам, што аднэй з прычын неўраджаю ў кожным такім выпадку быў недастатак вапны.

Вапна ў жыцьці расьліны мае зусім асобнае значэньне: яна патрэбна расьліне як корм і патрэбна глебе як чыньнік ейнай будовы (ці структуры). Вапны як корму для расьліны мае досыць кожная глеба, якая рэгулярна гноіцца хлявым гноем і таму аб дадаваньні такой глебе вапны як корму няма патрэбы многа рупіцца.

Зусім іначай стаіць справа з запасам у глебе вапны як складовай часткі гэтай глебы. Тут з недастатку вапны глеба становіцца зімной, неўраджайнай, нават тады, калі ў ёй ёсьць даволі ўсякіх іншых кармовых сучастак, як азот, паташ і фосфар. Усе гэтыя падставовыя сучасткі глебы бяз вапны астаюцца нявыкарыстанымі. У глебе такой творацца квасы, сама глеба зьліваецца, саскарупліваецца, перастае радзіць такія расьліны як гарахі і канюшыны, на вясну доўга не абсыхае і таму слыве як глеба позная. Калі аднак да гэткіх глебаў дадаць вапны, дык справа адразу зьмяняецца: вапна нэўтралізуе шкодныя квасы, самыя кармавыя складнікі глебы становяцца для расьліны лёгкастраўнымі. Глеба ажывае: становіцца правеўнай для паветра, прапускной для дажджавой вады, бактэрыі пачынаюць жыць, множыцца і перарабляць неўраджайныя пласты глебы на ўраджайныя.

Канец м-ца ліпня і цэлы м-ц жнівень гэта якраз самая пара дадаваньня ў глебу на ўзараныя аржышчы вапны. Глебы цяжкія патрабуюць вапну нягашаную, у форме парашка, а глебы лёгкія — ў форме гашанай (вуглян вапны, $CaCO_3$). На гэктар даюць зьмолатай на муку нягашанай вапны ад 70 да 90 мэтр. цэнтнараў. Разсееную вапну зараз-жа трэба ўбаранаваць, а па нейкім часе — яшчэ дадаткова перамяшаць культыватарам. На сьвежа-вапнаваную цяпер глебу ня можна класьці хлеўнага гною раней, як у позную восень, перад зімовым заворываньнем.

За раз усё поле вапнаваць гэта значны выдатак і да некатсрай меры—рызыка. Таму найлепш разлажыць гэту работу на некалькі год, вапнуючы кожны год толькі часьць поля. Тады чалавек бачыць вынік папярэдняга вапнаваньня, бачыць свае абмылкі, на каторых вучыцца жыць і працаваць далей.

Купляць вапну можна ў кожнай краме будаўляных матар'ялаў, але найтаней аднак гэта абходзіцца пры куплянні яе вагонам: тады кожны цэнтнар (100 кіляграмаў) нягашанай вапны каштаваў-бы ня цэлыя 3 зл., а нямеленыя абломкі — толькі 1 зл. 25 гр. (у 1936 г. і з перасылкай). Бліжэйшыя інформацыі аб цэнах і варунках дастаўкі вапны ахвотна падасьць кожная вапельня.

Дык хай-жа гэтыя кароткія словы паслужаць кожнаму панукай да разважаньня, чаму ягоныя глебы позна вясной абсыхаюць, чаму кепска родзяць і як усяму гэтаму зарадзіць.

*С. Я—віч.*

## Умееш даіць карову?

На гэта пытаньне большасьць нашых гаспадыняў гатова нават абразіцца. Як? — кажа — я век свой зжыла пры гэтай працы і каб ня ўмецы? Ды й што тут такое вучыцца? Абы толькі было што даіць...

Гэтак і падобна будзе выгаварвацца блізу кожны наш гаспадар, кожная гаспадыня. А з вымовы іхняй можна быць найбольш пэўным, што найбольш вымаўляюцца тыя, хто сапраўды даіць ня ўмее. Гэта можна лічыць бадай правілам. — Дык у чым-жа справа?

Каравячае вым'я гэта ня толькі мэханічны бяздушны апарат дзеля выцэджваньня раз лепшага, іншы раз горшага малака, — не, гэта вельмі складная, вельмі чуткая, стала чынная лябораторыя, у каторай найлепшае, найклусьцейшае малако вырабляецца якраз падчас даеньня. І калі даіць ня так, як вымагае сама прырода, дык марнуецца ня толькі гэта найлепшае малако, але псуецца і ўвесь апарат — вым'я.

# Hurtok — hurtki...

*(Z pryčyny 70-ch uhodkaŭ 1-ha ziemlarobskaha hurtka ŭ Paznanščynie).*

Hurtok — heta h i s t a r y č n a j e slova ŭ biełaruskim žyćci. Z hetym słovam źviazany siahońnia ŭspaminy na nadziei i mahčymaści rodnaje pierad usim kulturna-aśvietnaje pracy. A kali hetyja mahčymaści, pierastali isnavać, dyk samo słova „hurtok" miascami stałasia čuć nie strašakom: „budzie tak, jak z hurtkami" — paŭtarajuć da siahońnia nie ŭ adnym miescy.

Ale nia pužajmasia hurtkoŭ: rodnyja hurtki ŭ kožnaha narodu byli zaviazkam lepšaha žyćcia, asnutaha na samadapamozie i dapamozie bližniamu. Praz hurtki ludzi zdabyvali sabie aśvietu, praz hurtki papraŭlali svoj byt haspadarski. Siahońnia śviet nia staŭsia lepšym, kožny pilnuje pierad usim samoha siabie. A toje, što chtości dla voka daje byccam z dobraci — ŭsio roŭna ci heta ŭ aśviecie, ci ŭ haspadarcy, ci ŭ čym inšym — jak-ža časta byvaje zvyčajnym ašukanstvam, vyrachavanym na čužuju łohkaviernaść. Sapraŭdnaja dola kujecca pracaj, a pracavać vuča hurtok. Pryhledźmasia-ž na chvilinu, jak pracuje taki ziemlarobski hurtok u paznanskich palakoŭ.

Praca takoha hurtka z kanieśnaści inšaje mieła nakiravańnie tady, kali palaki nia mieli svaje niezaležnaje baćkaŭščyny, a jnakš pracujuć hetyja samyja hurtki siahońnia, kali tyja-ž palaki niezaležnuju baćkaŭščynu ŭžo majuć.

Kali paznanskija palaki byli pad čužoj im niamieckaj uładaj, dyk u svaich h a s p a d a r s k i c h hurtkoch hałoŭny nacisk kłali na pracu k u l t u r n a - a ś v i e t n u j u. Staralisia jany tady praz hurtki razbudzić u narodzie pačućcio jednaści i pryviazańnia da ziamli, nia tolki ŭtrymlivajučy jaje ŭ svaich rukach, ale j zdabyvajučy štoraz bolšyja abšary; samatužna padyjmali pry hetym sposaby svaje haspadarki, kab całkom uniezaležnicca ad haspadarskaha žyćcia čužoha ŭładara kraju. Hetak haspadarskija hurtki zmahalisia z čužyncam, jaki imknuŭsia miascovych ludziej vykinuć z ziamli i paniemčyć, a na ich miesca panasadžvać svaich asadnikaŭ.

Zusim źmianiŭsia kirunak pracy haspadarskich hurtkoŭ, kali narod zdabyŭ svaju niezaležnaść. Ciapier vysunuli jany na pieršy plan samaŭzhadavańnie, abaronu intaresaŭ svaich siabroŭ i vyhadavańnie ŭ ich pačućcia hramadzian svaje niezaležnaje dziaržavy. Adpaviedna da hetaha arhanizujucca referaty — ŭ valniejšy čas čaściej, a ŭ rabočy — prynamsia raz u tydzień. Referaty pryhataŭlajuć s a m i siabry hurtka, a kali takich siabroŭ niama, dyk žbirajucca na sumiesnaje čytańnie hazetaŭ, jakija vypisvajuć u składku, i na razvažańnie pračytanaha. Kali čaho nie razumiejuć ci naahuł čaho patrebnaha ŭ hazecie nie znacho-



*Рысунак № 1.*

Блізу скрось у нас пашыраны спосаб даеньня каровы выглядае так, як наверсе паказвае рысунак; гэта знача дойка (цыцка) ў верхняй часьці абыймаецца вялікім і паказальным пальцамі, якія пасьля гэтага сьціскаюць дойку і сьцягіваюць яе зьверху ўніз, выганяючы такім чынам набранае ў дойцы малако ў падстаўленую даёнку. Гэта найчасьцейшы, але й найгоршы спосаб, бо дойкі выцягваюцца і лопаюцца, а малако занячышчаецца ад пальцаў, якія ссоваючыся па дойцы блізу за кожным разам палошчуцца ў малацэ. Усімі культурнымі гаспадарамі гэты спосаб даеньня сягоньня прызнаецца як благі і шкодны.

Незраўнана лепшы, калі не называць яго найлепшым, ёсьць спосаб даеньня *выцісканьнем*. Для пачынаючых, ня маючых яшчэ практыкі, гэты спосаб паказваецца цяжкім, вымагаючым многа сілы. Але гэта толькі так здаецца. Першая часьць гэткага даеньня паказана на ніжэй далучаным рысунку № 2.

Дойка бярэцца ў жменю, паміж вялікім пальцам з аднаго боку і чатырма іншымі пальцамі — з другога, — і сьціскаецца; але ня ўсімі чатырма пальцамі адразу, а па чарзе. Спачатку моцна дацісквецца да даланя палец паказальны, пасьля сярэдні, бязыменны і ўрэшце малы. Гэты апошні мамэнт, калі



*Рысунак № 2.*

ўсе пальцы прыцісьнены да даланя, а малако сплывае ў падстаўленую даёнку, паказаны на ніжэй далучаным рысунку № 3:



*Рысунак № 3.*

Усё даеньне спосабам выцісканьня гэта „перабіраньне пальцамі“ зьверху ўніз: калі прыцісьнецца апошні (малы) палец, тады ўсе пальцы выпрастоўвуюцца і пачынаецца ўсё ад пачатку, ад пальца паказальнага.

**Перш чым приступіць да даеньня спосабам выцісканьня, трэба прывучыць да незалежнага сьціскаваньня і распрастоўваньня кожнага з чатырох пальцаў на абедзьвюх руках.**

Трэці ўрэшце спосаб даеньня паказаны на ніжэй пададзеным рысунку № 4:



*Рысунак № 4.*

Гэта ёсьць спосаб даеньня вялікім пальцам: чатыры пальцы рукі ляжаць нярухома ззаду дойкі, а схілены ў суставе, як гэта паказана на толькі што ўспомненым рысунку, вялікі палец сьлізгаецца па дойцы зьверху ўніз. Спосаб гэты вымагае даўжэйшай практыкі, але хто яго раз апанаваў, той можа даіць даволі хутка і складна.

Тым ці іншым спосабам доенае вым'я раз хутчэй, іншы раз пазьней апаражняецца. Але не да чыста. У вым'і астаецца йшчэ малако вытваранае падчас даеньня і яго трэба выгнаць у дойкі. Робіцца гэта масажаваньнем вым'я: выцерае прад самым даеньнем вым'я хапаецца абедзьвюма рукамі, некалькі разоў згладжваецца, сьціскаючы зьверху ўніз і тады ўжо выдойваецца. Гэта ёсьць найклусьцей-

---

dziać, dyk pišuć ab hetym u redakcyju, a taja starajecca jak moža prośbu vykanać.

Na hetkich-ža sabrańniach čytajucca j lekcyi zavočnaha kursu ziemlarobstva ahulnaha, ci jakija specyjalnyja, napr. sadoŭnickija, pčalarskija, buhalteryjnyja ci jakija inšyja, jakija zastupajuć školnaje navučańnie i nie adryvajuć čałavieka ad jahonych štodziennych zaniatkaŭ u haspadarcy.

Vielmi dobrym sposabam fachova-ziemlarobskaha ŭzhadavańnia źjaŭlajucca supolnyja ekskursyi siabroŭ ziemlarobskaha hurtka ŭ ichnija-ž haspadarki. Kožny siabra hurtka nia tolki čytaje dy słuchaje referataŭ, hazet i knižak, ale tak-ža starajecca pasvojmu ŭsio čutaje zastasavać u praktycy, u svajej haspadarcy. Ab hetym jon raskazvaje siabrom hurtka na tavaryskich schodach. Ale siabry sami achvotna tak-ža jduć pahladzieć, jak i chto z ich haspadaryć. Pry hetym, kab bačyć haspadarku takoj, jakoj jana jość u sapraŭdnaści, nia kažucca napierad, kudy takoha j takoha dnia ekskursija pojdzie. Kirunak ekskursii zvyčajna aznačaje los (žerabia): haspadary sabraŭšysia jšci na ekskursiju ciahnuć los — i pavodle hetaha jduć da taho, chto adpaviedny los vyciahnuŭ.

Pryspasableńnie ziemlarobskaje choć i słužyć pierad usim dla moładzi, to adnak znachodzić šmat achvotnikaŭ i siarod siabroŭ ziemlarobskich hurtkoŭ, naŭpierad pry zakładańni daśledčych (probnych) paletkaŭ na ŭhnajeńnie paloŭ i sienažaciaŭ, stasavańni zavodnaha nasieńnia, racyjanalnaha karmleńnia žyvioły i h. d. U hetych tak-ža hurtkoch rodzicca i daśpiavaje dumka praŭdzivaj kooperacyi, jakaja pačynajecca zvyčajna z supolnaha zakupu štučnych hnajoŭ, pašy ci nasieńnia i supolnaha zbytu zbožža ci tavaru hadaŭlanaha (śviniej), a kančajecca na arhanizavańni lekarskaj pomačy i až na dabravolnaj strachoŭcy nia tolki budynkaŭ, ale ŭradžajaŭ na poli (ad hradu), žyvioły (ad chvaroby) i navat samoha čałavieka.

Žyćcio pakazała, što hetkaja samatužnaja praca ludziej jość daloka važniejšaj, čym praca ŭ arhanizacyjach z płatnymi sakratarami j dyrektarami. Tamu i novačasnaja arhanizacyja ziemlarobskaha samaŭradu („Izby Rolnicze“) apiraje svaju pracu tak-ža na hetych samych arhanizacyjach samatužnych (hramadzkich), pryznačajučy im tolki fachovych instruktaroŭ (rajonnych ahranomaŭ).

Na kolki ziemlarobskija hurtki ŭžo patrapili zdabyć dla siabie pryznańnie, vidać choć-by z taho, što siahońnia jany łučać u sabie 90 pracentaŭ usiaho sialanstva Paznanščyny, tvoračy hetak sapraŭdnuju sialanskuju siłu, z katoraj musiŭ rachavacca čužyniec i jakaja jość apiryščam u žyćci narodu volnaha. Heta płod pracy 70-ci hadoŭ!

Jak mnoha ŭ hetym navučalnaha i dla siańniašniaha sielanina biełaruskaha!



## У фруктовым садку.

З прычыны сушы і вялікіх упалаў па садох нашых размножыліся ў вялікім ліку розныя жыватворныя шкоднікі, мухі й іхнія вусеніцы, якія кідаюцца ня толькі на лісьце, але й на фрукты. Вынікаюць з гэтага вялікія шкоды, бо дрэва бяз лістоў ня можа карміць пладоў. Калі нават здолее выпусьціць новае лісьце, дык надмерна высіляецца, а ад гэтага ў наступным годзе зусім ня родзіць. Гэта адна з прычын неўраджайнасьці нашых садоў. Можна так жа баяцца, што самкі шкодных мошак, размножыўшыся праз меру, зложаць вельмі шмат яечак, каторыя або перазімуюць да вясны, або з каторых яшчэ сёлета выклюнуцца вусеніцы. Некаторыя гатункі мошак зімуюць у форме вусеніц жывых, акручаных „павучыньнем", так што ім не зашкодзяць і найбольшыя маразы. Нішчыць яйкі ўсякіх шкоднікаў памагаюць чалавеку розныя птушкі пяюны, якія імі кормяцца.

Незалежна ад гэтага нішчыць усякіх шкоднікаў, як сьпелыя мошкі і іхнія вусеніцы, мусіць сам чалавек. Карыстаць пры гэтым трэба з звычаю некаторых мошак зьбірацца ў кучы ў гарачыя дні па паўдні паміж сукоў з паўночнай стараны дрэва (ў цяні), а ў непагоду — з паўдзённай стараны. Гэткія кучы мошак і вусеніц трэба вышуківаць і расьціскаць рукой у рукавіцы.

Суша шкодзіць дрэвам, бо дзеля разьвіцьця пладоў яны патрабуюць шмат вады. Вельмі добра дзеля таго зрабіць наўкола пнёў вялікую міску з зямлі і падліць яе вадой. Апрача таго зямлю пад дрэвам трэба стала ўтрымоўваць пульхнай так шырака, як шырака сягаюць сукі — гэтак не марнуецца дарагая зямная вогкасьць, зямля ня высыхае. Найгорш, калі зямля ў садзе зарасьце травой. Можа гэта хараша выглядае, але для дрэваў гэта вельмі шкоднае, бо карэньне травы зьбіваецца ў густы кажух, праз каторы да карэньняў дрэў цяжка дастаецца як паветра так і вада. Калі пальле нават большы дождж, дык карэньне травы хутка ўбірае ваду, а зямля пад травой, г. зн. якраз там, дзе знаходзіцца карэньне дрэваў, можа быць сухая быццам попел. Ня трэба даказываць, як гэта шкодзіць дрэвам і яны з часам родзяць усё менш і менш, павінна быць наадварот. Трэба дзеля таго траву перакапаць на шырыню кароны дрэва, а нават і шырэй, бо карэньне заўсяды сягае далей, чым суччо, і гэтак утрымоўваць. Шмат шкоднікаў у зямлі пераараджаецца з вусеніц у пачваркі, напр. майскі жук. І такія шкоднікі як раз вельмі любуюцца ў цэлай непарушнай глебе, а гэта га ня трэба.

Шмат будзе сёлета пладоў рабачлівых, якія без пары сьпеюць і ападаюць. Плады гэтыя трэба старанна зьбіраць, бо некаторыя шкоднікі гнязьдзяцца ў гэткіх пладох і з яго пераходзяць у зямлю. Апаўшыя плады (яблыкі, ігрушкі), калі яны йшчэ малыя, дык з іх можа быць толькі паша для сьвіней. Большыя плады можна выкарыстаць дзеля прыгатаваньня мармэляды або безалькагольных напіткаў. Незалежна ад гэтага ў малых садох найлепш пераглядаць дрэвы і рабачлівыя плады зрываць раней, чымся яны зваляцца. Пры вялікім урадӝаі пладоў на дрэве, яны не разьвіваюцца належна. А каб гэткія плады добра вырасьлі, трэба часьць пазрываць: тады рэшта будзе мець досыць сілы дзеля разьвіцьця, а за добра разьвітыя плады добра і плацяць.

*Паз.*



...шае малако, а часам дык і проста сьмятана (да 12 прац. туку).

Пры ўсім гэтым захаваньне чыстаты як пры ўтрыманьні каровы, так асабліва пры даеньні яе і перапрацоўцы малака на адпаведныя прадукты вымагае ўвагі і дакладнасьці. Бяз гэтага добрых малочных прадуктаў ніяк атрымаць ня можна.

*А. К.*

Інж. Ад. Клімовіч.

## Асновы земляробскай эканомікі.

7)

**Севазварот.** Чаргаваньне па сабе расьлін на тымжа полі ня было заўсяды такім, як мы яго бачым сягоньня. Яно з часам зьмяняецца і тое, што было калісь надта „модным" і паступовым, сягоньня называюць перажыткам старасьвеччыны. Напр. трохпалёўка, уведзеная ў нас у часы вялікай зямельнай рэформы Жыгімонта-Аўгуста (1557 г.), ведамая як „валочная памера", на той час была вельмі мудрай, але сягоньня ўжо яе — не заўсяды слушна — называюць да нічога няпрыгоднай. — Але вернемся да перагляду, як разьвіваўся севазварот на працягу вякоў, а бадай і тысячагодзьдзяў аж да нашых часаў. Бачым тут пэрыяды (поры) гаспадаркі пастушай, зернавой, пераменнай і вольнай.

Пастушая гаспадарка была ўсюды пачатачнай формай гаспадаркі, калі чалавек пераставаў быць паляўнічым і станавіўся пастухом. Да сягоньня астаткі пастушай гаспадаркі ў Эўропе захаваліся ў калмыкоў, кіргізаў, у Альпах ды Карпатах. Калі стады жывёлы станавіліся большымі, тады ўласьнікі іхнія паміж сабой пачалі сварыцца за пашу, астанавіліся на тых мясцох, дзе былі, падзялілі пасьбішча, а калі з часам і гэтага не хапала, дык чалавек быў змушаны гадаваць ужо збожжа. Часьць пасьбішчаў сталася ральлёй, а чалавек стаўся першабытным земляробам; сеяў датуль, пакуль радзіла, а як перастала радзіць, дык узноў запускалася пад сенажаць, а чалавек успахіваў пад пасеў новыя абшары. І так кругом, аж пакуль не вярнуўся на тую зьмену, з каторай выйшаў. З часам аднак абшар пасьбішчаў меншаў і адпаведна да гэтага збольшываўся абшар палёў пахатных. Натуральна, чаргаваньне засеваў у тыя далёкія часы ня было так сталым, як сягоньня.

Наагул узята пастушая гаспадарка гэта гаспадарка экстэнсыўная, бо мала патрабуе працы і капіталу, а галоўным чынам апіраецца на выдайнасьці прыроды. Выняткам з гэтага правіла зьяўляюцца пастушыя гаспадаркі паўночна-нямецкія і галяндзкія, якія загаспадараны вельмі сільна (інтэнсыўна).

Той ці іншы спосаб гаспадаркі на полі залежа наўперад ад клімату. У краёх сырых па пастушым пэрыядзе паўстаюць гаспадаркі травапольныя, а ў сухіх — зернавыя (трохпалёўка) і пераменныя.

У *травапольных* гаспадарках сеецца збожжа праз некалькі год на адным загоне, а пасьля гэтыя самы загон ляжыць праз некалькі год як пасьбішча. Севазварот ідзе ў гэткім парадку: 1-шы год жытаярыца (на хлеўным гнаі), 2. ячмень, 3. авёс, 4—5. канюшына, 6—9. пасьбішча, 10. папар (дзеля добрага ўспаханьня ральлі пад яравое збожжа).

Гаспадарка спосабам *трохпалёвым* даволі ў нас знаная. Звычайная трохпалёўка значна зьлепшылася, калі спачатку была заведзена ў яе канюшына, а пасьля бульба. Парадак у севазвароце зьлепшанай трохпалёўкі гэткі:

1 год: ½ поля — акопніны, ½ поля — канюшыны
2 „ азіміна
3 „ ярына

*або:*

# Капусьніца і змаганьне з ею.

Капусьніца (*Pieris brasicae L.*) гэта вельмі распаўсюджаны матыль, вусеніцы каторага зьяўляюцца ў нас найбольшымі шкоднікамі капусты.

Крыльля гэтага матыля белыя; наверсе пярэдніх крыльляў знаходзіцца вялікая чорная пляма, а на сярэдзіне задняга берагу, меншая цёмная плямачка. Апрача гэтага самка мае па 2 круглыя плямкі на сярэдзіне крыльляў. Шырыня разцягнутых крыльляў каля 6 см.

Капусьніца выступае ў нас у двух, а часам нават у трох пакаленьнях. Матылі першага пакаленьня капусьніцы лётаюць ужо ў канцы красавіка і ў траўні. Самкі складаюць тады яечкі на розных пустазельлях з сям'і крыжакветных (*Cruciferae*). Выклюўшыся з яечак вусеніцы кормяцца гэтымі




Капусьніца—матыль. У гары — самец,знізу самка. | Вусеніцы капусьніцы—ў часе яды на лісьцю капусты.

---

1 „ акопніна 4 „ канюшына
2 „ азіміна 5 „ азіміна
3 „ ярына 6 „ ярына.

Гэтак палепшаная трохпалёўка вельмі хутка вычэрпывае гнойныя запасы з глебы, так што хлеўны гной ня можа іх вынагарадзіць і патрабуе гнаёў дадаткавых, ці штучных. Затое мае такі зьлепшаны спосаб і свае выгоды, пайменна:

1. плошча аромага поля павялічваецца на адну трацiну;

2. касуецца палявы прымус (прымус напр. сеяць жыта ў адным полі), а ўсьлед за гэтым касуюцца супольныя пасьбішчы і сама супольная паша;

3. пашныя расьліны (канюшына, кармавы бурак), выгадаваныя на аромым полі, даюць магчымасьць унезалежніць гадоўлю жывёлы ад быцьця ці нябыцьця ў гаспадарцы сенажацяў ды пазваляюць завесьці кармленьне жывёлы ў хляве праз цэлы год; гэтым самым папраўляецца гадоўля, у гаспадарцы прыбывае гною, а ўсьлед за гэтым павялічываецца і ўраджай на полі.

Нявыгада гэтай-жа зьлепшанай трохпалёўкі ў тым, што пры ёй у рабочы час набіраецца за шмат срочнай працы, сільней адчуваецца недахоп польных дарог (пры церазпалосіцы) і пагражае небясьпека здароўю запёртай у хлеў праз цэлы год свойскай жывёлы.

Як-бы яно ня было, усё-ж, завядзеньне зьлепшанай трохпалёўкі ў земляробстве спатрабye значны ўклад працоўных сіл і капіталу і азначае вялікі поступ. Спатыкаемся з ёй сяньня ў большасьці культурных краёў, дзе сеецца шмат каласістых збажжавін, але ня шмат акопнін.

Зьлепшаная трохпалёўка ў большасьці выпадкаў ёсьць канешным, пераходным ступнём да севазвароту багацейшых краёў — норфольскага, шасьці і шматпалёвага.

Адначасна з зьмяншаньнем запасу зямлі, цана ейная падымалася. Каб гаспадарка на гэткай зямлі аплачывалася, трэба было з гэтае зямлі мець большыя ўраджаі.

Зямельны голад, а тым самым і дарагоўля зямлі даліся ў знакі перадусім старонкам так прамысловым, як Англія; і ў Англіі, у графстве Норфольк паўстаў першы севазварот, які стараўся выкарыстаць кожную пядзю зямлі як найбольш. Гэты севазварот дастаў назоў *норфольскага* і прадубачываў чатырохпалёўку з наступным парадкам: акопніны (на хляўным гнаі), ярына (з усевам канюшыны), канюшына, азіміна.

У гэтым севазвароце вялікую вартасьць мае канюшына як сама за сябе, так і як расьціна папераджаючая азіміны. Хутка аднак паказалася, што на большасьці грунтоў канюшына, прыходзячы што чацьверты год, перастала радзіць. Прычына гэтага зьявішча і да сягоньня ня вытлумачана; але людзі з гэтым неўраджаем канюшыны мусілі згадзіцца і севазварот расьцягнуць так, каб канюшына—і наагул кожная г. зв. матыльковая ці стручковая расьліна — вярталася на тое самае поле не раней, як адзін раз за шэсьць гадоў. Гэтак паўстаў севазварот шасьціпалёвы: 1. акопніна (бульба, бурак), 2. ярына (авёс, ячмень), 3. канюшына (сееная ў папярэднім годзе ў ярыну), 4. азіміна, 5. акопніна, 6. ярына. Або іншы 6-ціпалёвы севазварот: 1. бульба, 2. авёс, 3. гарох (ці іншая стручковая расьліна), 4. азіміна, 5. канюшына, 6. азіміна.

расьлінамі і дзеля гэтага першае пакаленьне капусьніцы ня ёсьць шкодным. Але йнакш прадстаўляецца справа з другім пакаленьнем, матылі каторага лётаюць у нас у канцы ліпня і ў жніўні. Яны складаюць ужо яечкі на лісьцях капусты, каляфіёраў, калярэпы, рэпы і іншай гародніны з сям'і крыжакветных.

Яечкі самкі складаюць звычайна на сподзе лістоў, кучкамі, па 15—250 штук. Яны падоўгаватыя, шырэйшыя пасярэдзіне, сьветлажоўтага колеру. Залежна ад пагоды, пасьля 8—12 дзён ад часу злажэньня выклёўваюцца з яечак вусеніцы. Пасьля выхаду з яечак, вусеніцы зачынаюць есьці, трымаючыся грамады, а калі ўжо падрастуць, тады разыходзяцца па цэлай расьліне і ядуць паасобку. Яны так абжорлівыя, што зусім зьядаюць лісты пакідаючы толькі грубейшыя жылкі. Падчас масавых паяваў яны ня толькі што пералазяць на блізкія расьліны ў адным агародзе, але масамі пераходзяць у суседнія агароды, аб'ядаючы зусім капусту і падобныя расьліны.

Выгляд гэтых вусеніц („чарвякоў“, як іх у нас завуць) ёсьць добра ведамы. Вырасшыя вусеніцы маюць каля 5 см. даўжыні, з чорнаю галавою і жоўта-зялёным колерам цела, пакрытым чорнымі плямачкамі і рэдкімі валаскамі.

Вусеніцы жывуць на капусьце ў жніўні і верасьні. Вырасшыя ўжо вусеніцы пакідаюць расьліны і пералазяць на блізкія платы, пні дрэваў, сьцены будынкаў, дзе заменяюцца ў нярухомыя пачваркі, жоўта-зялёнага колеру, з чорнымі плямкамі. Там яны і перазімоўваюць, а вясною наступнага году выходзяць з іх матылі.

Трэба зазначыць, што вусеніцы даволі вытрывалыя на маразы, бо шкодзіць ім толькі большы мароз як 4° Ц.

У барацьбе з капусьніцай памагаюць нам розныя птушкі і інсэкты, а таксама паразітныя грыбкі. Аднак-жа, ня гледзячы на гэта трэба і нам самым вясьці з імі змаганьне. Адносна барацьбы з капусьніцай трэба сказаць, што стасуючы такі ці іншы спосаб, трэба рабіць гэта ў адпаведным часе, гэта значыць яшчэ спачатку, калі толькі пабачым, што зьяўляюцца вусеніцы, а не тады, калі ўжо з лістоў асталіся толькі шкялеты. І тут перад усім трэба зьвярнуць увагу на такія спосабы, якія забясьпечываюць перад масавым паяўленьнем шкодніка. Такім спосабам ёсьць нішчэньне ў агародах і ваколіцах усялякага пустазельля, у гэтым выпадку галоўна пустазельля з сям'і крыжакветных. Пасьля, душэньне рукамі складзеных на лістох яечак, зьбіраньне вусеніц з расьлін, нішчэньне пачварак схаваных на платох і сьценах будынкаў. Добра ёсьць у агародах з капусьніцай складаць сухія галіны дрэваў. На іх з ахвотай вусеніцы перавертаюцца ў пачваркі, каторыя нішчым пасьля палючы разам з галінамі.

Апрача гэтага можна стасаваць яшчэ розныя атруты як у парашку, так і ў жыжкцы. З важнейшых варта параіць *парыжскую зелень.*

25 грам (100 грам каштуе ўсяго 80 грашоў) гэтай атруты распушчаем ў крысе вады і мяшаем, каб зрабілася з гэтага папка (рэдкае цеста). Да гэтага трэба яшчэ 50—75 грамаў нягашанай вапны, каторую гасім, а пасьля атрыманае гэтак вапеннае малако цэдзім і дадаём да яго вады, каб выйшла 30 літраў вапеннай жыжкі. Да жыжкі гэтай дабаўляем папку з парыжскай зелені, добра мяшаем і апырсківаем расьліны.

Ёсьць яшчэ шмат іншых сродкаў, але іх трудней прыгатаваць, ці даражэйшыя, дык і ня будзем аб іх пакуль-што ўспамінаць; тым больш, што яны зусім ня лепш дзеяць ад парыжскай зелені. Трэба толькі адзначыць, што атрута гэтая найлепш памагае, калі ўжываем яе да м а л а д ы х вусеніц (вялічыня каля 2 см.).

У канцы варта йшчэ зацеміць, што апрача капусьніцы ў агародах нашых выступае падобны да яе матыль — рэпніца, але ён ужо менш шкодны ад папярэдняга.

*Мікалай Караленка.*

*Kutok dla haspadyniaŭ*

## Prypaminka haspadyniam.

Pamiatajma ab našych hradkach. Praryvajma (praredžvajma) morchvu, buraki, sałatu. Sadziema flansy kalafijoraŭ, kalarepy, kučaravaj kapusty, pamidoraŭ. Padlivajma viečaram adstajaŭšaj vadoj.

Varema aharodninu, morchvu, harašok, ježma šmat sałaty.

Dziaciam pazvalajmo ješci syruju morchvu, bo heta vielmi zdarova.

Dbajma ab hradki z kvietkami, addajučy ich pad apieku našych dziaciej.

Sušyma krapivu dla kurej na zimu.



## Hryby.

Našy lasy dajuć nam ad rańniaj viasny da vosieni šmat usialakich hryboŭ. Nia znajučy ichniaj vartaści ŭ haspadarcy, časta ich niedaceńvajem. A nia treba zabyvacca, što dobra vysušanyja hryby zaŭsiody majuć zapeŭnieny zbyt, a pierarobki z ich (marynaty, muka) — heta pomač dla haspadyni na zimu. Nie havaru ŭžo, jak dobra smakujuć jany ŭletku, kali haspadynia ŭmieje pryładzić z ich smašnuju stravu...

Ale žbirajučy hryby treba być aściarožnym prad hrybami atrutnymi. Žbirać treba lohka, nie narušajučy kruhom ziamli, abčyščać na miescy z ziamli nožykam. Prad pryładžvańniem stravy — pałaskać hryby celymi, kab nie naciahnuli vady. Vielmi starych hryboŭ nia žbirać, bo jany nie zdarovyja.

Nižej padajom kolki receptaŭ na stravy i pierarobki z hryboŭ (sposab ukrainski).

### Poliŭka z hryboŭ.

Abčyščanyja i abpałaskanyja hryby parezać na listki. Narezać drobna cybulu, ukinuć u haračy tłušč, a jak trochi źmiaknie, ułažyć tudy parezanyja hryby. Padsmažyć, pasalić. Nie varyć za doŭha, bo ćviardziejuć. Jak hryby źmiaknuć, zalić haračaj vadoj, dać zasmažku z adnej łyžki tłušču i adnej łyžki muki. Možna nie davać zasmažki, a tolki poliŭku śmiatanaj zabialić i zabielenaj užo nie zavaryvać. — Parezać zialonuju piatrušku i krop i ŭsypać u hatovuju poliŭku.

Možna taksama ŭ hrybnuju poliŭku zavaryć krychu makaronaŭ.

Taksama pryhataŭlajem hryby na husta, tady nie dajom vady, ani zasmažki, a tolki samuju śmiatanu i dadatki aharodniny.

### Hrybnaja marynata.

Šapački z baravikoŭ abo apiańkoŭ abpałoskivajem i varym u sołanym varatku praz 10 minut. Tady adcedžvajem na sicie i pakidajem, kab adstyli. Asobna varym dobry vocat, raspuščany vadoj z babkovym listom, piercam horkim i sałodkim i na hruba pakrojenaj cybulaj.

Hryby składajem u čystyja, suchija słoiki i zalivajem zimnym voctam tak, kab vocat pakryŭ hryby. Na vierch nalivajem krychu dobraj alivy abo raspuščanaha masła. Słoiki abviazvajem pergaminavaj papieraj i špahatam.

Pierachoŭvajem u suchim ściudzionym miescy.

### Solenyja ryžyki.

Abčyščanyja šapački ryžykaŭ składajem płastami u dzieraŭlanym sasnovym bačonku, abo ŭ palivanym haršku, tak jak raśli, h. zn. vierchām šapački da hary. Kožny płast solim. Možna taksama pierakładać hetyja płasty parezanaj na listki cybulaj. Nakładajučy hetak hryby ŭciskajem ich, bo jnakš dyk jany paśla asiaduć sami. U mieru patreby možna dakładać hryby śviežyja. Vierchni płast prykryvajem čystaj mokraj tkaninoj, takim-ža denkam i kamieniem i staŭlajem u kamory ci ŭ sklepie (ŭ pohrabie). Za kolki dzion hryby puściać sok. Kali jaho za mała, dalivajem pieravaranaj solenaj vady.



## Karystajma z jahad.

### Zavaryvańnie čarnicaŭ, paziemak, malinaŭ i h. d.

1 klh. cukru raspuścić u $^3/_4$ šklanki vady. Ukinuć 2 klh. śpiełych čarnic i varyć razam, źbirajučy šumaviny i lohka miašajučy. Smažyć koratka. Haračyja składać u nahretyja słoiki. Zaviazyvać jak astynuć.

Heta sposab tanny, a pradukt prydatny da piečyva.

### Poliŭki z fruktaŭ.

Jahady: paziemki, čarnicy abo maliny pracirajem na sicie, palivajem pieravaranaj vadoj.

Jak jahady užo praciortyja, razmiešvajem śmiatanu z cukram i zapraŭlajem poliŭku. Hetkija poliŭki jadziom zimnyja z bulbaj, chlebam ci bułkaj. Ich zusim nia varym. Vielmi smašnyja na haračyja dni.

**Z višniaŭ, ciarešniaŭ, jabłykaŭ i ślivaŭ** robima poliŭku tak, što nalivajem ich vadoju i varym, a jak źmiakčejuć — pracirajem i zapraŭlajem śmiatanaj.

Sałodzim da smaku. Dla zapachu dajem skurku cytryny abo kusok cynamonu. Kali nia majem śmiatany, zapraŭlajem małakom, ale tady dadajem kryšku muki i zavaryvajem.

### Kisiel z jahadaŭ.

Afiny ci maliny varym z vadoj i cukram. Raźmiešvajem łyžku bulbianoj muki z ściudzionnaj vadoju i ŭlivajem u jahady. Jak zahuśnie, studzim i jadziom z zimnoju śmiatankaju abo małakom.

*„Silśk. Hosp."*

## Гаспадарская хроніка.

**Серчыкі патанелі** на 20 прац., пачынаючы ад 1 ліпня сёл. Знача цяпер нармальна карабок серчыкаў каштуе 8 грашоў замест 10-цёх. Аднычасна абніжаны аплаты манапольнага падатку ад запальнічак у гэткім парадку: ад кішанковай — 1 зл., ад сьценнай ці сталовай — 3 зл., і ад запальнічкаў з золата ці серабра — 5 зл.

**Ліцытацыі стрыманы.** Скарбовыя ўлады выдалі загад устрымаць ліцытацыі ў сялянскіх гаспадарках на час жніва.

**Мінэральныя крыніцы.** Савецкія газэты пішуць, што ў Бабруйшчыне пры зямных работах натрапілі на мінэральныя крыніцы. Дасьледжваньнем гэтых крыніц што да якасьці і магчымасьці эксплёатацыі занянца мае сумысная камісія спэцыялістаў.

**Наступны, № 12, «Самапомачы» выйдзе 10-га жніўня сёлета.**

# Што чуваць на сьвеце

## У Саветах.

**Арыштавалі Уншліхта** сябру Ц.В.К. і кандыдата на сябру ЦК камуністычнай партыі. Гэта стары камуніст. Перажыў многа становішчаў. Між інш. быў ён у 1919 г. у Вільні, а ў 1920 г., падчас паходу бальшавікоў на Варшаву, быў сябрам прыгатаванага польскага камуністычнага ўраду, разам з Мархлеўскім і Дзержынскім.

**Выбарны закон у Найвышэйшы Савет СССР** разглядаецца на скліканай 7 г. м. сэсіі Цэнтр. Выкан. К-ту СССР пад старшынством Калініна і пры ўчасьці ў прэзыдыуме: Сталіна, Молатава, Кагановіча, Варашылава, Андрэева, Мікояна, Чубара, Косіора, Жданава, Ежова і Якаўлева

### Ці выключа Гітлера?

Англіцкая „Дэйлі Скетч" падала сэнсацыйную вестку, што на апошняй нарадзе Папы з кардыналамі было быццам пастаноўлена выключыць Гітлера з Каталіцкага Касьцёла. Гітлер, як ведама, паміма яўна процікаталіцкага курсу палітыкі ў Нямеччыне, да апошняга часу зьяўляецца каталіком

## У Гішпаніі.

**Паўстанцы просяць помачы.** Паўстанцы хоць занялі большую часьць абшару Гішпаніі, то аднак рахуюць, што ня вытрымаюць другой зімовай кампаніі. І таму, каб хутчэй закончыць вайну, паўстанцы просяць Італію і Нямеччыну, каб ім даставілі дадаткова 125.000 жаўнераў, 300 самалётаў, 50 батэрый гармат і большага ліку танкаў.

**Паўстанцы процiў Італіі?** Разыйшлася погласка, што павадыр паўстанцаў ген. Франко быццам ужо сам пераканаўся, што помач Італіі паўстанцам мае на мэце умацаваньне італіянскіх уплываў на гішпанскім паўвыспе. Гэта стаіць у супярэчнасьці з імкненьнямі нацыянальнай Гішпаніі і таму паўстанцы гатовы быццам сарваць з Італіяй. Ці гэта аднак праўда, ці толькі манэўр перад Англіяй і Францыяй — аб гэтым тымчасам няведама.

### Ірляндыя унезалежняецца.

Па адбытых пераможных выбарах, павадыр незалежніцкіх ірляндцаў — сучасны прэм'ер дэ-Валера заявіў, што партыя ягонная бярэ адказнасьць за ўрад. Плебісцыт у справе канстытуцыі выказаў волю народу ў кірунку незалежнасьці. Па 6-цёх месяцах праект канстытуцыі ўвойдзе ў сілу і станецца асновай дзяржаўнага будаўніцтва.

## У Францыі.

**Паўнамоцтвы ўраду Шотана.** Урад Блюма (сацыяліста) пайшоў у адстаўку, бо не дастаў паўнамоцтваў для спраў фінансавых. Прыйшоў урад Шотан'а (радыкала), які паўнамоцтвы дастаў. Каб не дапусьціць да грашовых спэкуляцый, новы ўрад тымчасам замкнуў біржы.

### Жыдоўская дзяржава.

Сталыя непарадкі ў Палестыне паміж арабамі і жыдамі давялі да праекту падзелу ўсей Палестыны на часьці арабскую і жыдоўскую і ўтварэньня з часьці жыдоўскай асобнай жыдоўскай дзяржавы. Справу гэту як праект мае разглядаць спэцыяльная камісія.

### Чуць не вайна на Ўсходзе.

На савецка-манджурскай мяжы даходзіць да сутычак вельмі часта. Апошняя такая сутычка на р. Амуры за валаданьне астравамі: Вялікі і Сэнуфа чуць не дайшло да рэгулярнай вайны. Тымчасам аднак небясьпека стрымана.

### Усход загараецца.

Паміж японскімі вайсковымі аддзеламі ў Кітаю недалёка ад сталіцы Пэкін з аднаго боку і вайсковымі аддзеламі кітайскімі за апошні тыдзень колькі разоў даходзіла да фармальнай бітвы. Хоць з афіцыяльных японскіх кругоў запэўняюць, што гэта „звычайнае непаразуменьне", то аднак пагроза вайны на ўсходзе вісіць у паветры.

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *9.VII.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта | 23.50—24.50 |
| Пшаніца | 27.80—29.00 |
| Ячмень | — — — |
| Авёс | 25.00—26.00 |
| Грачыха | 28.00—29.00 |

**Малочнае,** *9.VII.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | —2.50 |
| „ „ дэталь | —2.80 |
| Масла сталовае гурт | —2.40 |
| „ „ дэталь | —2.70 |
| Масла соленае, гурт. | —2.50 |
| „ „ дэталь | —2.80 |
| Сыр эдамскі чырв., гурт. | —2.00 |
| „ „ „ дэталь | —2.40 |
| „ „ жоўты, гурт | —2.65 |
| „ „ „ дэталь | —3.10 |
| Сыр літоўскі гурт. | —1.45 |
| „ „ дэталь | —1.70 |
| Яйкі ў гурце за капу | 3.60—4.50 |
| „ ў дэталю за штуку | $6^1/_2$—8 гр. |

*Z techničnych pryčyn drukarnia mahła drukavać hety numar tolki 13.VII.1937.*

